# Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 27 (279) | ГОД VI | БЕЛАСТОК 2 ЛІПЕНЯ 1961 ГОДА | ЦАНА 60 ГР.


На настаўніцкія тэмы

## Прыбліжэнне школы да жыцця і лекцыя гісторыі

Грамадства ставіць нашым школам вялікую задачу: прыблізіць школу да жыцця. Задача гэтая вырашана на шматлікіх канферэнцыях і нарадах нашых педагогаў, акрэслена шматлікімі інструкцыямі і паву чэннямі асветных устаноў.

Прынцып прыбліжэння школы да жыцця абазначае, што павінна яна тлумачыць акружаючае дзяцей жыццё, а адначасова рыхтаваць іх да актыўнага ўдзелу ў жыцці, як будучых грамадзян.

Прынцып гэты ў педагагічнай працы асноўны і самы правільны, аднак вельмі агульны. У практыцы нашых школ пераважна зводзіцца ён да праблемы прыбліжэння школы да вытворчасці.

Гэта зусім зразумела. Жыццё патрабуе ад нас, перад усім, эфектыўнай вытворчай працы, зразумення вытворчых працэсаў.

Гэта вельмі добра, што настаўнікі нашыя клапацяцца пра тое, каб у нашых школах было больш навуковых дапаможнікаў, каб лекцыі фізікі, хіміі, біялогіі давалі больш практычных ведаў, каб дзеці ў школе навучыліся карыстацца машынамі і прыладамі з якімі яны сустрэнуцца ў жыцці.

Вельмі добра, што ў нашу школу ўваходзіць так званая палітэхнізацыя. Аднак трэба сказаць, што палітэхнізацыя і прыбліжэнне школы да жыцця — дзве розныя праблемы.

Апрача ўрокаў фізікі, хіміі і біялогіі вялікае значэнне ў прыбліжэнні школы да жыцця мае вывучэнне такіх прадметаў, як гісторыі, беларускай і польскай моў. Аднак у практыцы не заўсёды гэта добра атрымоўваецца.

(Працяг на стар. 4)

НАШЫ ІНТЭРВ'Ю

## РЭГІНА БЕЛЬСКАЯ і солтыс КЕРДЗЕЛЭК вітаюць чытачоў „НІВЫ"



Чытачы пазнаёміліся з імі ўжо даўно, слухаючы канцэртаў Польскага радыё.

Рэгіна Бельская — гданская спявачка — прыгожая жанчына, невысокага росту. Голас у яе поўны шчырай, сардэчнай задуменнасці. На сцэне чуецца свабодна і хутка навязвае кантакт з гледачамі.

А солтыс Кердзёлэк?

Шмат людзей уяўляе яго, як старэйшага мужчыну з вусамі, падкручваючы якія га-

(Працяг на стар. 5)



Прыгажосць развітых маладых кшталтаў, якія яшчэ нядаўна зайздросна хаваў перад цікаўным вокам скромны школьны фартушок. Атэстат сталасці дае права адкрыць іх і любавацца імі.

...Стаім на парозе жыцця і гэты вечар належыць да нас... Мелодыя танга спляла нашы рукі...

Фотарэпартаж з выпускнога вечара ў Бельскім Беларускім агульнаадукацыйным ліцэі глядзі на стар. 4.

## ВЫСТАЎКА ДЗІЦЯЧАГА МАЛЮНКУ

Праз цэлы ліпень у будынку ГП БГКТ будзе адкрыта выстаўка дзіцячага малюнку беларускіх школ, якую ГП БГКТ арганізавала ў выніку праведзенага ў гэтым годзе конкурсу на найлепшы вучнёўскі малюнак — ілюстрацыю прачытанай кніжкі.

У верасні г. г. выстаўка будзе экспанавацца ў Беластоцкім Клубе міжнароднай кніжкі і друку.

Родныя краявіды



Рака Нараўка ля Старога Ляўкова. Фота: Ул. Юзвюк.

# РАКЕТНАЕ СПАБОРНІЦТВА

Цікавае разважанне на тэму спаборніцтва ў пабудове касмічных ракет паміж Савецкім Саюзам а Злучанымі Штатамі змясціла заходня - нямецкая газета «Дойчэ Фольксцайтунг». «Перавага савецкай ракетнай тэхнікі, — піша газета, — дадае амерыканцам нямала клопатаў». Нібыта з таго часу, калі член Савецкай Акадэміі Навук праф. В. Трапезнікаў паведаміў на старонках «Праўды», што матор касмічнага карабля «Васток», які вынес на касмічную арбіту Гагарына. меў магутнасць «многіх» мільёнаў механічных коней, прапалі на мысе Кап Канавэраль надзеі дасягнення Савецкага Саюза ў 1964 г. у галіне касмічных палётаў дзякуючы вялікай ракеце «Сатурн», якая зараз будуецца. Як усім вядома. мыс Кап Канавэраль з'яўляецца месцам прабывання амерыканскага ракетнага цэнтра. з якога да гэтае пары запусцілі большасць касмічных снарадаў. Паводле газеты «Дойчэ Фольксцайтунг» магутнасць мотораў «Сатурна» будзе мець паўтара мільёна англійскіх фунтаў (у пералічэнні на механічныя коні дае гэта такую магутнасць, якую ўжо зараз маюць савецкія многаступенныя ракеты). Газета піша літаральна: «Савецкі Саюз мае ўжо сёння касмічныя караблі магутнасцю каля 20 мільёнаў КМ».

У публікацыі амерыканскага ўрада на тэму выніку даследавання «краін усходняга блока» ў галіне геафізікі, астраноміі і касмічных палётаў ёсць цытаваная справаздача пэўнага спецыяліста. Інфармуе ён, што сіла савецкай 5-ступеннай ракеты «Венера» мела 1,6 мільёнаў англійскіх фунтаў. Была яна ў 6 разоў цяжэйшай за амерыканскую ракету «Атляс» і ў 600 тысяч англійскіх фунтаў цяжэйшая за ракету «Сатурн», на якой амерыканскі канструктар Вэрнэр фон Браун апрацоўвае яшчэ планы. Ён паведамляе яшчэ, што даўжыня касмічнага карабля, запушчанага ў Савецкім Саюзе ў напрамку Венеры, мела 80 метраў. «Сатурн», якога падрыхтуюць да старту ў 1964 годзе, будзе мець даўжыню каля 52 метраў. Разрэз савецкай ракеты ў самым шырокім месцы меў 5 метраў, а разрэз «Сатурна» будзе мець 8 метраў. Амерыканскія ракетныя спецыялісты гавораць, што гэтая розніца звязана з большай магутнасцю савецкіх ракетных матораў, і яна дазваляе атрымаць на меншай прасторы значна большую хуткасць.

Паводле гэтых самых заходніх апіній уся апаратура савецкіх касмічных караблёў разам з выкідальнікамі з'яўляецца поўнасцю аўтаматызаваная. Савецкія вучоныя надзвычай добра развязалі праблемы стабільнасці, супраціўляльнасці на хістанне і лёгкага аддзялення паасобных ступеняў ракеты.

У заключэнні артыкула газета «Дойчэ Фольксцайтунг» піша: «Розніца паміж тым, што Савецкі Саюз у ракетнай тэхніцы ўжо атрымаў, а тым, што Злучаныя Штаты жадаюць атрымаць у будучыні, так вялікая, што безнадзейнай з'яўляецца справа ліквідацыі перавагі ўсходу ў якім-небудзь магчымым да прадбачання часе. Нашая думка такая ж самая як заходня-нямецкай газеты і амерыканскіх спецыялістаў у галіне пабудовы ракет.

**УЛ. ЛАЗІНСКІ**

ВЕСТКІ з БССР

# ГАРАДОК МЕДЫЦЫНЫ ПАД МІНСКАМ

На 12 кіламетры шасэ Мінск — Лагойск у сасновым бары ўзводзіцца буйны медыцынскі цэнтр. Тут размесцяцца Рэспубліканскі навукова - даследчы інстытут анкалогіі і медыцынскай радыялогіі і вялікая рэспубліканская клінічная бальніца. Увесь участак у 40 гектараў падзелен на зоны лячэбных карпусоў, адпачынку хворых, навуковы і гаспадарчыя сектары.

У комплекс збудаванняў інстытута ўваходзіць некалькі будынкаў для розных спецыяльных і паліклінічных аддзяленняў, стацыянара. Запланавана ўзвесці асобны будынак пансіяната. Ён прызначаецца для хворых, якія прыязджаюць з раёнаў у Мінск на кансультацыю да спецыялістаў і амбулаторнае лячэнне.

Другі комплекс адведзен для трох — чатырох — і пяціпавярховых лячэбных і лабараторнага карпусоў рэспубліканскай клінічнай бальніцы на 840 ложкаў. Яна будзе мець амаль 15 аддзяленняў, у тым ліку і такія, як нейрахірургія, грудная хірургія, артапедыя, эндакрыналогія і іншыя. Пры бальніцы запраектаваны паліклінічнае аддзяленне, водалячэбніца, рад дапаможных і гаспадарчых служб, а таксама аддзяленне санітарнай авіяцыі.

Прадугледжана таксама будаўніцтва сталовай для абслугоўваючага персаналу, дзіцячых ясляў і сада, пральні. На асобнай тэрыторыі размесціцца жылы пасёлак для навуковых і медыцынскіх работнікаў, школа, інтэрнаты.

Як паведамілі карэспандэнту БЕЛТА ў Міністэрстве аховы здароўя БССР, будаўніцтва гарадка медыцыны будзе ажыццяўляцца ў дзве чаргі. Першым у 1963 годзе вырашана ўвесці ў строй комплекс будынкаў інстытута.

(БЕЛТА)



**Доктар медыцынскіх навук, загадчык кафедрай факультэтнай хірургіі Мінскага медыцынскага інстытута, прафесар Пётр Маслаў аперыруе хворага.**



**У анкалагічным дыспетчары І-й клінічнай бальніцы Мінска.**

# СЕРАБРЫСТА – ЧОРНЫЯ ЛІСЫ НА ПАЛЕССІ

Сюды крыху больш як год назад было завезена 248 серабрыста - чорных ліс, 200 норак і 10 блакітных пясцоў.

Навасельцы добра акліматызаваліся на Палессі. Ужо летась быў праведзены першы забой звяркоў. Ферма атрымала прыбытак ад рэалізацыі пушніны звыш 30 тысяч рублёў.

Ферма папоўнілася новай партыяй звяркоў. К канцу сямігодкі камбінат будзе даваць штогод 30 тысяч шкурак норак, серабрыста - чорных ліс і пясцоў.




За год да пачатку Вялікай Айчыннай вайны ў Міная Піліпавіча Шмырава памерла жонка. Яна пакінула яму чацвёра малых дзяцей.

У той час Мінай Піліпавіч працаваў дырэктарам Пудацкай кардоннай фабрыкі. Фабрыка была невялікая, усяго дзвесце сорак рабочых, а кардону выпускала шэсць тон у суткі.

Цагляныя карпусы фабрыкі падымаліся сярод мора хваёвых лясоў. Лясы цягнуліся з-пад Віцебска да Вялікіх Лук. Па рацэ Усвячы да Пудаці сплаўлялі сыравіну для фабрыкі.

Пудаць лічылася самым адлеглым пунктам Суражскага раёна. Да чыгункі адсюль было не менш пяцідзесяці кіламетраў. Нягледзячы на гэта, жылі карданажнікі добра.

1

У Пудаці Мінай сутыкнуўся з Васілём Фаменкавым. Упершыню сустрэліся яны год восем назад, калі Мінай быў прарабам у лясніцтве, а Фаменкаў працаваў там жа старшынёй рабочкома. Гэты невысокі, гарбаносы, рабаценісты чалавек выявіўся вялікім жулікам, аферыстам і паклёпнікам, і не без удзелу Шмырава давялося яму неўзабаве пайсці з наседжанага месцайка.

Мінай амаль забыў аб ім, як раптам лёс зноў звёў яго з Фаменкавым: Васіль працаваў у суседнім лясніцтве, але цэлымі днямі бадзяўся на фабрыцы, піў з глаўбухам.

Сустрэўшы яго неўзабаве пасля свайго назначэння дырэктарам, Шмыраў папярэдзіў:

— Нам з табою няма чаго гуляць у жмуркі, наскрозь бачым адзін другога. Дык вось запомні: каб твайго духу не было на фабрыцы, чуеш?

— Інакш? — са зласлівай усмешкай спытаў Фаменкаў.

— Інакш не я буду, калі зноў не выведу цябе на чыстую ваду, і

2

ўжо гэтым разам, так і ведай, пасаджу моцна!

На гэтым і закончылася гутарка: не да прайдохі было Мінаю, справы на фабрыцы ішлі дрэнна, яна з месяца ў месяц не выконвала вытворчую праграму. Давялося Шмыраву з галавой паглыбіцца ў неадкладныя справы прадпрыемства.

Ён змяніў глаўбуха, тэхнічнага кіраўніка, начальніка тэхкантролю. На фабрыку прышлі новыя людзі: Рычард Шкрэда, Павал Галубаў. Рычарда Мінай ведаў добра: яго бацька і брат таксама працавалі на Пудацкай фабрыцы. Сам Рычард служыў раней у НКВД, пасля перайшоў да гандлю. На фабрыцы ён узначаліў аддзел тэхнічнага кантролю. Неўзабаве камуністы выбралі яго сваім партгрупоргам.

Інжынер Галубаў прыехаў з Масквы. Малады, скромны, выдатна ведаў вытворчасць і хутка заваяваў агульную пашану.

Фабрыка патрабавала ад Міная сталай увагі, але і аб дзецях ён не забываў: у іх жа не было маці. Таму дзень для яго пачынаўся задаўга да світання. Устане, накорміць

3

жывёлу, натопіць печку, падрыхтуе дзецям ежы на ўвесь дзень, а тым часам і сонца ўжо падымалася. Разбудзіць дзяцей, памые, адзене, пачне збіраць у школу. Адправіць — і амаль бегам на фабрыку, дзе пасля нядаўняга развалу ўсё давялося рабіць нанава. У гэтым яму шмат памагалі Павал Галубаў і Рычард Шкрэда. Паступова падбіраўся і сапраўдны, моцны актыў — людзі, на якіх можна было надзеяцца ва ўсім. З'явіліся на фабрыцы і першыя стаханаўцы.

Добра працаваў Яўгень Абраменка. Ён у гады белапольскай акупацыі партызаніў у атрадзе Міная, які дзейнічаў у тутэйшых мясцовасцях. Выдзяляўся і брат Шкрэды, Карл, хлапец год дваццаці сямі.

У сорак першым годзе Пудацкая фабрыка перашла на выпуск спецыяльнага кардону для патрэб ваеннай прамысловасці.

Спраў у Міная прыбавілася яшчэ больш. У абед ускочыць дамоў, выцягне з печы каструлі, накорміць дзяцей — і зноў на працу. З фабрыкі вернецца за поўнач, калі дзеці ўжо трэці сон бачаць, але

4

# ПРЫГОЖАЯ СТАЛАСЦЬ

## (З МАТУРАЛЬНАГА БАЛЮ БЕЛАРУСКАГА ЛІЦЭЯ Ў БЕЛЬСКУ)

**17—18 чэрвеня адбыўся ў Беларускім агульнаадукацыйным ліцэі ў Бельску матуральны баль 10 выпуска гэтага ліцэя — першы такі баль у новай школе.**

**Нашы рэпарцёры мелі нялёгкае заданне. Як зрабіць, каб на параўнальна невялікім месцы ў газеце, якое мы маглі адвесці па гэтаму выпадку, паказаць і расказаць больш менш аб усім багатым і цікавым вечары. Ці ўдалося ім гэта, хай ацэніць чытач.**





**— Мая да вас, дарагія выпускнікі, апошняя просьба: не забывайце сваёй школы, з якой сёння развітваецеся, не забывайце сваіх настаўнікаў, якія былі і застаюцца вам другімі бацькамі! — гаварыў да выпускнікоў дырэктар Яраслаў Васільевіч Кастыцэвіч.**

**Адказам Яраславу Васільевічу была доўгая авацыя выпускнікоў і іх бацькоў у гонар дарагога дырэктара.**

**З некаторымі выпускнікамі я гаварыла. «Не хочацца пакідаць школы», — казалі. Значыць, хіба не забудуць.**

**Шчаслівыя, свежыя, маладыя, поўныя найлепшых надзей і жаданняў 18-годкі — гераіні сённяшняга вечара.**

**Гляджу на іх і раптам чамусь успамінаю, што яны ж не ведаюць вайны, хоць нарадзіліся ў змрочныя часы фашысцкага тэрору на нашых землях. Якое для іх шчасце, што не помніцца першых дзён свайго жыцця. Хацелася б хоць на момант стацца імі і пераканацца, ці мір ім таксама дарагі як нам — старэйшым і перажыўшым. Але хіба так.**



**Ганаровым госцем выпускнога вечара быў дырэктар дэпартамента Міністэрства Унутраных Спраў тав. Кендзерскі, які з Варшавы спецыяльна прыехаў для гэтага ў Бельск.**

**Прысутныя аказалі тыповую беларускую шчодрасць, жадаючы тав. Кендзерскаму не традыцыйныя «сто» а «тысячу» год жыцця**

**Калі полька — то мы пакажам, што ногі яшчэ не падвядуць. І сапраўды, бацькі ў полькі зусім закасавалі маладых. Апошнія зрэшты нават не стараліся апраўдвацца. Нічога бы не выйшла. Таму брава бацькам за польку, а маладым — эх, вы! А шкада!**





**Найлепшыя з курсу. Яна, Ліда Міранюк з Дзяніскаў, ён, Зыфрыд Галяк з Ольштынскага ваяв. Зыфрыд паляк. Пісьмовую працу на беларускай мове напісаў так, што звольнілі яго ад вуснага экзамену па гэтаму прадмету.**

**І Ліда і Зыфрыд маюць пяцёркі з матэматыкі і фізікі — двух навуковых дысцыплін, якія кшталтуюць наш сучасны свет і жыццё, да якіх належыць будучыня. Абое будуць вучыцца далей: яна на фармацыю, ён на тэхнічную школу. Шчаслівай дарогі!**

# ПРЫБЛІЖЭННЕ ШКОЛЫ ДА ЖЫЦЦЯ І ЛЕКЦЫЯ ГІСТОРЫІ

працяг са стар. 1

Вось для прыкладу ўрок гісторыі адной з нашых вясковых школ.

У малым, душным класе змораны працай настаўнік, змучаныя дзеці. Настаўнік падае вучням абстрактныя веды аб дзяржавах, нацыях, аб урадах і палітычных партыях. Многа тут шаблонных трывіяльных думак, агульных фраз. Дзеці слухаюць без усякай зацікаўленасці. На наступны ўрок будуць старацца больш ці менш удала паўтарыць настаўніку ўсё тое, што праслухалі.

А за акном у веснавым сонцы купаецца вёска са сваімі таямніцамі, з дробнымі помнікамі мінулых дзён, з легендамі і з цікавымі людзьмі. Усё ў ёй цікавіць і прыцягвае дзяцей.

Ці гэтай цікаўнасці не павінна выкарыстаць школа?.

Паспрабуйце сказаць дзецям на ўроку гісторыі што цяпер раскажаце аб іх вёсцы, а з твараў знікне нуда і стомленасць, а ў вачах загарацца агні зацікаўлення. Паспрабуйце хоць раз пайсці з вучнямі ў поле, і, усеўшыся на кургане ці ўзгорку, расказаць дзецям пра курган, тады пераканаецеся, што кожнае вашае слова застанецца назаўсёды ў памяці дзяцей. Паспрабуйце запрасіць у школу старога дзеяча ці ўдзельніка важных гістарычных падзей, тады пераканаецеся, што ўрок ваш, ва ўсведамленні дзяцей, мае новы, жывы змест.

Такім чынам зможам мы прыблізіць да сведамасці дзяцей прошлы гістарычны свет.

Патрэбнасць гэтага прадбачыць, між іншым, школьная праграма, у якой гаворыцца, каб настаўнікі час-ад-часу праводзілі з дзецьмі ўрокі на тэму гісторыі ваяводства.

Знаёмства дзяцей з гісторыяй іх мясцовасці, апрача разбуджэння ў дзяцей гістарычнай зацікаўленасці, мела б яшчэ іншы выхаваўчы сэнс — пашаны іх «роднага кутка», зразумення прагрэсіўных традыцый іх продкаў.

Хіба толькі той можа быць сапраўдным паўнацэнным грамадзянінам новай народнай дзяржавы, хто зразумеў глыбокія традыцыі, з якіх ён выводзіцца, хто зразумеў мінулае «свайго кутка» і пакахаў яго лепшую будучыню.

Шкада, што не ўсе настаўнікі знаёмы з гісторыяй вобласці ў якой яны працуюць. Было б вельмі карысна, каб тэматыка гэтая знайшла сваё месца на раённых канферэнцыях настаўнікаў. Гэтую прапанову кіруем пад развагу праўленняў Саюза польскіх настаўнікаў.

**УЛАДЗІМІР ПАЎЛЮЧУК**

**Тэкст ВЕРЫ ЛЕУЧУК**

**Здымкі Г. РАГАЗІНСКАГА**

**Майго калегу фотарэпарцёра панёс тэмперамент. Не мог дачакацца тортаў і адправіўся ў пошуках іх на кухню. Тут са здзіўленнем знайшоў не толькі пышныя торты, але і ў камплеце бацькоўскі камітэт.**

**— Торт хочаце? Дамо! Але ў замен адзін раз пстрыкніце на памяць!**

**Яшчэ дадаю, што бацькоўскі камітэт пры Белар. агульнаадукацыйным ліцэі ў Бельску з'яўляецца адным з самых аператыўных бацькоўскіх камітэтаў у нас. Яму таксама госці выпускнога вечара ўдзячны багатым прыгатаўленнем сталоў. Першы злева старшыня камітэта тав. Мінюк — асабіста падносіў поўныя талеркі гасцям. Сумняваюся, ці знайшоў час пад'есці сам.**





# Рэгіна Бельская і солтыс Кердзёлэк вітаюць чытачоў „Нівы”

**(Працяг са стар. 1)**

ворыць сваё «це хороба!», або з бічом у руках, апранутага па сялянску.

Нічога падобнага!

Ежы Аферскі (сапраўднае прозвішча солтыса з Хляпковіц) малады акцёр, сярэдняга росту, шырокаплечы, безвусы чалавек з чорнымі густымі валасамі. Выступае ў чорным візітным касцюме; на снежнабелай кашулі — чорная мушка. Толькі адзін лавіцкі капялюш напамінае штосьці народнае ў яго вопратцы.

Нядаўна Рэгіна Бельская і Ежы Аферскі разам з ансамблям «Альбатрос» наведалі Беластоцкае ваяводства. Канцэртавалі яны амаль у кожным павятовым цэнтры Беласточчыны. Між іншым выступілі ў Гайнаўцы і ў Бельску.

Канцэртная зала ўжо апусцела, але песні Рэгіны Бельскай і фельетоны солтыса Кердзёлка ўсё яшчэ звіняць у вушах. Людзі разыходзяцца з усмешкай на губах. Штораз хтосьці паўтарае: «Це хороба!»

Артыстаў сустракаю за заслонай Бельскага кіно «Зніч»

**— Вы, — звяртаюся да Рэгіны Бельскай, — з'яўляецеся жамчужынай ансамбля «Альбатрос», бо выступаеце адна сярод шасці мужчын, а талент Ваш недаступны для нас простых смяротнікаў.**

— Асцярожна з жамчужынамі, — заўважае Ежы Аферскі, — бо пра іх, як вучыць крыміналістыка, пагіб ужо не адзін чалавек.

**— Вам, — адказваю, — гэтае, думаю, не пагражае, бо ўжо цяпер сваім «це хороба!» заслужылі на бессмяротнасць у народзе. Папулярнасць солтыса Кердзёлка параўнаць можна толькі з папулярнасцю «Таталётка».**

— О, це хороба!

**— Але прабачце, даўно Вы ўжо на Беласточчыне?**

— Дзесяць дзён, — адказвае Рэгіна Бельская.

**— Што Вас схіліла наведаць Беласточчыну?**

— Асаблівых якіхсьці прычын не было, — паясняе Ежы Аферскі. — Наш ансамбль існуе ўжо ад лістапада мінулага года. Дзесяць дзён у месяцы бываем на гастролях у розных раёнах Польшчы. Зараз выпала нам менавіта Беласточчына.

**— Ці захацелі б Вы падзяліцца з намі сваімі ўражаннямі? Што перш за ўсё кінулася Вам у вочы на Беластоцкай зямлі?**

— Перад усім саламяныя хаты і буслы, — з захапленнем сцвярджае Рэгіна Бельская. — Кругом поўна буслаў. Гэта напамінае мне маё дзяцінства. Я нарадзілася на Віленшчыне. Там таксама шмат было буслаў, саломай крытых хат і мова на Беласточчыне зусім такая, якой і я калісьці карысталася.

— Калі забыць пра гасцініцы, у якіх прышлося нам начаваць, у мяне таксама застаюцца самыя найлепшыя ўражанні з пабыўкі на Беласточчыне, — адказвае солтыс з Хляпковіц. — У Беластоцкім ваяводстве жыве шмат беларусаў, а мая мама нарадзілася менавіта на Беларусі, дакладней — у Слуцку. Магчыма таму адчуваю шмат сімпатыі да беларусаў.

**— Што скажаце пра гледачоў, якія напаўнялі канцэртныя залы падчас Вашага артыстычнага падарожжа па Беласточчыне.**

Р. БЕЛЬСКАЯ: Хачу быць шчырай. Вось, калі знаходжуся на сцэне і гляджу на сваіх слухачоў, бачу задавальненне на іх тварах; значыць падабаюцца ім мае песні, гледачы адчуваюць іх, хвалююцца імі так, як я сама.

Е. АФЕРСКІ: За намі ўжо каля двухсот канцэртаў, якія давалі мы ў гарадах і вёсках нашай краіны. На аснове гэтага магу сказаць, што вялікай розніцы паміж гледачамі з іншых раёнаў, ці гарадоў і вёсак, і гледачамі на Беласточчыне я асабіста не заўважыў. Людзі зараз слухаюць радыё, глядзяць рэпертуар тэлебачання і гэта дае ім магчымасць адрозніць хаўтуру ад сапраўднага мастацтва. І дзе б ты не выступаў — у горадзе ці ў вёсцы — гледачы не дазволяць «набіваць сябе ў бутэльку», — яны патрабуюць ад артыстаў добрай акцёрскай і мастацкай падрыхтоўкі.

**— Адносна ансамбля «Альбатрос» магу сказаць, што яго праграма абаснавана на высокім літаратурна — мастацкім узроўні. Але дазвольце нашу гутарку накіраваць на больш асабістыя справы.**

— О, це хороба!

**— Што Вас найбольш цікавіць у Вашым прыватным жыцці, памінаючы, зразумела, сцэну?**

Р. БЕЛЬСКАЯ: Мяне — шыццё. Купіла я сабе швейную машыну і спецыяльна нават запісалася на курс шыцця і крою, які закончыла выдатна. Зараз, як толькі маю свабодную хвіліну, шыю, перарабляю са старога, пару ды зноў шыю. Усе свае сукенкі пашыла я сама. За гэтай працай я адпачываю.

**— Мяркуючы па выглядзе сукенак, Вы таленавітая краўчыха, але ці маглі б Вы параіць нашым Чытачам і жанчынам, што рабіць, каб заўсёды выглядаць так молада і прыгожа, як Вы?**

— На жаль, не магу, бо я, паверце, нічога асаблівага не раблю. Нават не прызнаю «цуд-дыеты», і ў цырульніка рэдка бываю. У час гастроляў па краіне няма на гэтыя справы часу і ўмоў.

Е. АФЕРСКІ: Рэна павінна прыгожа выглядаць, бо яна ў нас адна.

**— А Вы чым займаецеся найбольш ахвотна, калі няма патрэбы выступаць на сцэне або па радыё? — прыпамінаю пытанне, звяртаючыся да солтыса Кердзёлка.**

— Бяру веласіпед, — адказвае той, — і еду «падглядаць» сапраўднае жыццё. Часам спыняюся ў вёсках за дзесяткі кіламетраў ад Варшавы (дзе жыву) і там збіраю матэрыял да фельетонаў, якія потым па радыё ці ў час «жывых» спектакляў (як сёння) чытае солтыс Кердзёлэк.

**— Ці Вы самі пішаце фельетоны?**

— Сам і то выключна — ад першага да апошняга.

**— Калі можна спадзявацца Вас зноў на Беласточчыне?**

Р. БЕЛЬСКАЯ: Гэта толькі залежыць ад арганізатараў мастацкага жыцця ў вашым ваяводстве.

Е. АФЕРСКІ: Калі запросяць і аформяць усё як трэба, прыедзем неадкладна.

**— Вашыя заўвагі дазвольце накіраваць у адрас менавіта гэтых арганізатараў, а Вам і ўсяму ансамблю «Альбатрос» жадаю яшчэ шмат тысяч такіх выдатных канцэртаў і не адзін мільён гледачоў. Дзякую за надта ж прыемную гутарку і да наступнай сустрэчы!**

Р. БЕЛЬСКАЯ і Е. АФЕРСКІ: (амаль аднагучна) Перадайце сваім Чытачам нашыя найлепшыя пажаданні.

**Гутарыў: В. РУДЧЫК**

# Злы жарт

## / ГУМАРЭСКА /

За кафедрай стаіць выкладчык гісторыі старажытнай Грэцыі Авер'ян Плінтус. Ён глыбока перакананы, што студэнты прагна ловяць кожнае яго слова, шчыра запісваючы ў сшыткі змест яго гутаркі.

Гэта, здаецца, сапраўды так. Вось за першым сталом супраць кафедры сядзяць студэнт і студэнтка. Студэнт нешта запісаў у сшытак, узняў галаву, глядзіць на выкладчыка. Студэнтка...

Але гэта толькі здаецца. Лісток, на якім студэнт зрабіў нататкі, апынуўся ў студэнткі. Тая зрабіла на ім сваю адзнаку і сшытак вярнула студэнту. Цяпер студэнтка слухае лекцыю, а студэнт схіліўся над сшыткам. Цікава, якія нататкі на лістку робіць Ён і якія Яна?

ЁН. Я жанюся...

ЯНА. Сапраўды? На кім?

ЁН. Так. Сапраўды. Выходзь за мяне замуж.

ЯНА. Я яшчэ хачу жыць. А ты мяне заўчасна загоніш у магілу сваімі паводзінамі.

ЁН. Што гэта значыць «сваімі паводзінамі»?

ЯНА. Плінтус глядзіць.

Захоплены ўвагай слухачоў, Плінтус з запалам гаварыў, прыгожа ўзмахваў пры гэтым рукамі або папраўляў пазалочанае пенснэ на грэчаскім носе. Словам, выкладчык гісторыі старажытнай Грэцыі быў на Алімпе.

— Вярхоўным богам Алімпа старажытныя грэкі лічылі Зеўса. Зеўс...

ЯНА. Ты б лепш памірыўся з Марысяй.

ЁН. Нас, гэта значыць мяне з ёй, памірыць толькі пекла.

ЯНА. О, ты такі непахісны. Можа ў цябе ёсць больш важныя падставы, чым тыя, аб якіх ты мне казаў?

ЁН. Няма. Але і гэтых больш чым дастаткова.

ЯНА. Глупства. Яна табе адданая, як Пенелопа, чыстая як Дэздэмона, а ты раўнівы, як Атэла.

ЁН. Я не такі наіўны, як вядомы табе К.

ЯНА. К. можа ўзяць сябе ў рукі. Ды і на твары не ўбачыш, аб чым чалавек думае.

Плінтус таксама нічога на бачыў. Ён упэўнена працягваў:

— Зеўс — вярхоўнае бажаство ў старажытных грэкаў — часта паказваўся з маланкай у руцэ. Зеўс — громавержац.

За першым сталом і цяпер не чулі выкладчыка. Ён і Яна былі на сваім Алімпе.

ЁН. Я жанюся ёй на зло.

ЯНА. Ты не маеш літасці.

ЁН. Плінтус глядзіць. Ты ведаеш, на другім курсе яго празвалі богам Алімпа — Зеўсам...

Гэтая астатняя нататка не трапіла ёй у рукі. Зазваніў званок. Выкладчык склаў паперы і сышоў з кафедры.

— Які жаль, — уздыхнуў студэнт.

— На самым цікавым месцы, — сказала студэнтка.

Плінтус, выходзячы з аўдыторыі, чуў гэтыя словы. Ён быў задаволены сваімі слухачамі.

...Наступілі экзамены. Прыйшла чарга адказваць студэнту і студэнтцы. Ён сядзеў за сталом, рыхтаваўся адказваць. Яна стаяла ля стала, за якім сядзеў выкладчык і, заікаючыся, адказвала:

— Старажытныя грэкі, значыцца... яны мелі многа розных багоў... Яны, значыцца, мелі гэтых багоў...

— Скажыце, калі ласка, — спытаў выкладчык, — хто з'яўляецца вярхоўным богам Алімпа?

— Вярхоўны бог... значыцца, вярхоўны бог.

Яна не ведала, што адказаць. Студэнт рашыў ёй дапамагчы. Рухамі рук і вачэй ён пачаў паказваць на выкладчыка, спадзяючыся, што студэнтка ўспомніць, што Плінтуса студэнты празвалі Зеўсам, і такім чынам ёй прыйдзе на памяць імя вярхоўнага бога Алімпа.

— Ну, дык хто ж быў вярхоўны бог Алімпа? — паўтарыў пытанне выкладчык.

Студэнтка, нарэшце, апамяталася.

— Успомніла: вярхоўны бог Алімпа — Плінтус! — выпаліла яна, узрадаваная.

Выкладчык анямеў. Студэнт схапіўся за галаву. Студэнтка не магла зразумець, што здарылася.

— Калі ласка, выйдзіце вон з аўдыторыі! — крыкнуў Плінтус голасам громавержца, прымаючы адказ студэнткі за злы жарт.

**ЛЕАНІД ПРОКША**



Мастацкі гурток з Баршчэва (Беластоцкі павет).
фота: — Г. Рагазінскі






Стары метад падпарадкавання сабе краін Лацінскай Амерыкі: палоханне камунізмам.

## У СУДЗЕ

Трахіма судзілі за тое, што біў жонку.

— Навошта вы па-п'янаму б'еце жонку? — пытае суддзя.

— Таму, што па-цвярозаму я ёй ніколі не даю рады, — адказаў Трахім.

**Васіль Іванюк**
Пасынкі

## ДОБРАЯ РАДА

Дзяняну трэба было пераехаць раку. Але ў яго не было грошай, заплаціць перавозчыку. Ён яму і кажа:

— Як перавязеш, дам табе вельмі добрую раду.

Пераехаўшы на другі бок Дзямян сказаў:

— Без грошай нікога не перавозь, бо не будзеш мець з чаго жыць.

**Віктар Сцепанюк**
Давідавічы




## ЗАЛЮШЧЫЎШЫ ВОЧЫ

— Татка, ці можаш ты падпісацца заплюшчыўшы вочы? — пытае Коля.

— Вядома, што магу.

— Ну дык заплюшч вочы і падпішыся ў маім школьным дзённічку, — сказаў Коля.

**Янка Здаоўскі**
Альхоўка.

## ВУЧЫЦЬ ПЛЫВАЦЬ

Сядзіць чалавек на мосце і лапае рыбу вудачкай. Едзе міліцыянер.

— Маеце карту рыбацку? — пытае ён селяніна.

— Не.

— Дык навошта лапаеце рыбу?

— А я зусім рыбы не лапаю, толькі чарвяка вучу плываць, — адказаў селянін.

**Жэнік Трахімчук,**
Лука



— Я перш за ўсё цаню якасць.

## МАЦІ І СЫН

— Ты мяне зусім не слухаеш, — кажа маці 5-гадоваму сынку. — Я праз цябе без пары пасівею.

— Ага, а чаму ты не слухалася бабулі? — пытае сын. Паглядзі якая яна сівая.

**Янка Ясьвіловіч**
Пасынкі

## АДКАЗАЎ

— Міша, бачыў ты калі мяне бруднага?! — пытае разгневаны бацька сына.

— Але ж я цябе яшчэ не ведаў, калі ты быў такі малы як я, — адказаў сын.

**Янка Здаоўскі**
Лесна


— Што гэта?
— Між намі кажучы, кусок каменя з чатырма дзіркамі, а наогул — мастацкі твор.


Спосаб на нясмелага

## СПРЭЧКА ГРЫБОЎ

У лесе пасля ночкі
Выраслі грыбочкі.
І давай спрачацца,
Давай выхваляцца.
Узяўшыся пад бокі,
Баравік высокі
Пад сасной кудлатай
Крычыць зухавата:
— Я за ўсіх дужэйшы,
За ўсіх прыгажэйшы.
Днём мне па галоўцы
Гладзіць промнем сонца
Шчабеча з усмешкай
Яму сыраежка:
— Ты ад сонца звянеш,
Дзе вады дастанеш?
У мяне ж на спінцы
Ямачка — карытца,
Я магу напіцца
Кожны дзень вадзіцы.
Во, зірні, расінка
З дрэва—кап—на спінку.
Рыжык тут з-пад моху
Паказаўся троху.
Ну, а нос ягоны,
Як бурак чырвоны.
—Ха-ха-ха, — Смяецца,—
Дайце наглядзецца
Мне на сыраежку.
На яе ўсмешку.
Ой, куды ты варта,
Белая, як вата.
Ты хвалько, сястрыца,
Што з т..е вадзіцы?
Я — другая справа.
Бачыш ты, як жвава
Рухаюцца плечы
Над імхом старэчым.
У плячах жа — сіла,
Кроў цячэ па жылах..
Тут грыбы - лісічкі
Вылезлі з іглічкі:
— Ох ты, рыжы рыжык,
Падыдзі к нам бліжай,
Падстаў сваё вуха,
Лісічак паслухай:
Пройдзе пару ночак,
Чарвякі паточаць
Твае плечы, жылы,
Прапападзеш ты, мілы
А мы ўсё лета
Будзем расці гэтак.
Чарвякі мінаюць,
Нас не аб'ядаюць...
— Ох, як пасля ночкі
Многа тут грыбочкаў! —
Чуецца ў лесе
Галасок Алесі.
І ад сполаху прынік
Да зямлі баравік.
І прапала ўсмешка
З твару сыраежкі.
Рыжык напужаўся,
Зноў пад мох схаваўся.
Прыціхлі лісічкі,
Жоўтыя сястрычкі...
Ўсіх знайшла Алеся
У сасновым лесе

**ВІКТАР ШЫМУК**

# ЦЫРУЛЬНІКІ

Зразумела, што без цырульніка ў вёсцы дрэнна. Мужчыны яшчэ неяк абыходзяцца. Адзін другому скарочвае чупрыну. І хоць пасля такой стрыжкі не пакажашся ў горадзе, але ў вёсцы хадзіць можна — коні не палохаюцца.

З жанчынамі горш атрымоўваецца. Прадстаўніцы прыгожага полу таксама карыстаюцца ўзаемадапамогай ва ўкладанні прычоскі. Але пасля такога саматужніцтва, ніякага гонару жанчыны не адчуваюць. Іншая справа, калі цырульнік валасы скароціць, дзе трэба падкруціць, або конскую грыўку на лоб апусціць. Ён і брыўкі з вейкамі падфарбуе, духамі абвее ды яшчэ поспеху ў мужчын пажадае.

Выходзячы ад такога цырульніка кожная жанчына высока галаву трымае, быццам кажучы:

— Калі ласка, глядзіце і захапляйцеся, толькі рукі пры сабе трымайце. Не для пса калбаса, — маўляў.

Дацэньваючы ролю цырульніка, нашыя вясковыя ўлады пачалі шукаць спецыяліста па жаноча - мужчынскай частцы. Некалькі год таму назад быў у нас цырульнік з дыпломам. Але ў жаночай псіхіцы разбіраўся слабавата і гэта яго згубіла. Аднойчы, перад карнавалам, ён парабіў дзяўчатам і замужнім адзінакавыя прычоскі. З гэтай прычыны было шмат непаразуменняў і цырульнік вымушаны быў пакінуць гасцінную вёску. Нашых жанчын проста халера бярэ ад серыйнай прадукцыі.

На маю думку, няма ў нас такога мужчыны, які б адважыўся сказаць сучаснай жанчыне, што яе прычоска зусім не да твару. Сказаўшы нешта такое мужчына можа не лічыць на ўвагу жанчыны. Кожнай жа Еве хочацца выглядаць так, каб суседак зайздрасць душыла.

Мужчына з дыпламацыяй, убачыўшы на жаночай галаве нешта напамінаючае стог сена, абавязаны зрабіць крок назад, ахнуць і сказаць, што прычоска Бардот надаецца туфлі чысціць уласніцы гэтакай галавы. Думаю, што чытачы зразумелі, як важна мець у вёсцы адпаведнага цырульніка з жаночымі кваліфікацыямі. Таму не трэба здзіўляцца нашай радасці, калі мы адшукалі такога майстра.

У дзень адкрыцця цырульні, першая кліентка выйшла адтуль з галавой поўнай закрутак, як у сапраўднага пудзеля. Другая жанчына таксама прыдбала сабачу прычоску. Наступным увайшоў сакратар. Перад цырульняй стаяла чарга. Калі сакратар выйшаў з прычоскай «пад драбіну», дзе кожны след ножніцаў быў выразна прыкметны, нехта сказаў:

— Партач, а не майстар.

— Дык гэты ж майстар у нашай спулдзельні авец стрыг. Яго за п'янства мы выкінулі, — сказаў прыезджы чалавек.

Людзі добрыя, бывае парой, што розныя самазванцы стрыгуць нас, як авец. Выманьваюць ад нас цяжка запрацаваныя грошы, а мы пазнаем гэта, але пасля стрыжкі.

Дзядзька Лявон


СЮРПРЫЗ.